




БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ І МАСТАЦТВА.

ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ ШТОТЫДЗЕНЬ.

Цана сшытку 5 м.
Падпіска
на 1 м-ц з перасылкай 20 м.
На 3 м-цы 60 м.

Год выд. I.
№ 1
2 мая
1920 году.

Рэдакцыя: Кашарская 10, кв. 5.
Адчынена 10—11 г. раніцы.

Адміністрацыя: вул. Міцкевіча, „Беларускі Дом“. Адчынена 9—3 г. ўдзень.

Рукапісы назад не выдаюцца.

Аплата прынятых рукапісаў і рысункаў залежыць ад рэдакцыі.

# У вырай!

Гэй, вольные птахі, саколіе дзеці!
У вырай! Да сонца вясёлкавым шляхам!..
Час сонцо схапіці і сонцам ірдзеці
І зьведаваць сьветы арліным узмахам.

Гэй, вольные птахі, патомкі крывічаў!
Да неба! па зоры і гром пяруновы...
Час крыльля расправіць—пагудка ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасьця шлях новы.

Гэй, вольные птахі, ўладарнікі песьні!
На шляхі, пад сьцягі красы і свабоды!..
Час выляцець к славе з пагібельнай плесьні
І песьняй агністай зьдзівіці народы!

**Янка Купала.**

# Рунь.

Каля пахай вёскі, пад вясновым раскошным сонцам, абапал дарогі, на нізінах і рэўнінах, між чорнымі палоскамі сьвежай ральлі ярка-зялёнымі дыванамі красуецца рунь...

Вабіць воко ратая прыгожы выгляд кволых, слабенькіх расьлін-дзетак Зямлі-маці і Сонца-бацькі.

А бацькі ў Руні добрые і рупные: яны песьцяць і вянчаць дзетак-расьлін і ўдзень і ўночы—і напаяць пахучай расою, і коскамі абагрэюць і пацалункамі абдаруюць.

І радуецца сэрцо ратая і нацешыцца ня можа. Выстаўляе ён мазалістые рукі да Неба з шчырым падзякаваньнем. Ад вялікага, гарачага пачуцьця гаварыць ён ня можа—не хапае слоў, каб выказаць Жыцьцедаўцу малітвы-песьні шчырай і простай душы свае...

Пад гарачымі праменьнямі соўнейка, пад сьпевамі жвавых птушак, пад жывым подыхам вясновай зямлі ўся істота яго гавора бяз слоў:

„Дзякую Божаньку, Зямельцы, Небу, Соўнейку, Месячыку і усім сілам жывой і спагадлівай Прыроды!

Вы дапамагаеце мне ў маей цяжкай працы—зярняткі жытніе не прападуць дарма: рунь вырасьце ў цэлае моро залацістых каласоў, закрасуе ніва, нальецца колас, пойдуць зажынкі, жніво і дажынкі; пачнуцца песьні, скокі, гульні; будзе добры ураджай, вялікі ўмалот, спорна ў млыне, багата ў даяжы і наздароўечка ў ядзе сямейцы працавітай, старцам і лірнікам, людзям добрым і сьвету цэламу“...

— Аман!—раздаецца гул усяе зямелькі, ўсяго неба.

Мо' гэта шуміць гай на ўзгорку? Мо' ручай пяе? Мо' жаўранкі шчабечуць? Хто яго ведае—селяніну здаецца, што нехта кажа „Аман!“...

* * *

Наша беларуская літэратура, мастацтво, нашае нацыянальнае адраджэньне—гэта вясновая рунь, каторая красуецца пад сонцам. У душы нашага народу засеены зярняты сьветлых думак аб волі, аб шчасьці, аб незалежным жыцьці.

Нашые сілы яшчэ маладые, але беларускае адраджэньне расьцець і павялічваецца з кожным днём. Будзіцца наш ратай да лепшай долі, рвецца да новага жыцьця і сам хоча будаваць сваё шчасьце.

Мы верым, што беларус стане гаспадаром свае зямлі. Мы верым, што мазалі нашага селяніна, які трымаў на плячох сваіх чужынцаў, патрапяць зрабіць штокольчы і для сябе. Мы верым, што беларускае поле закрасуецца, закаласіцца над гарачым сонцам раскошна і багата!

**З. Б.**



# Містэрыя.

Ноч і цішыня.

Вароты заскрыпелі,—у сарочцы белай выйшла дзеванька на выган на шырокі. Аб нізкі абапёрлася пляцень, задумалася, на ясны месяц гледзячы, і песьню сумную, дзявочую запела:

Туман, туман па даліне,
Шырок лісток на каліне,
Шырэй таго на дубочку,
Кліча голуб галубочку,
Кліча сваю ня чужую:
— Пастой, сэрцо, пацалую!
— Нашто маеш цалаваці,
Сэрцу жалю дадаваці...

„Сэрцу жалю дадаваці“—ўторыць вокліч з далі, з броду ціхай рэчкі.

„Жалю дадаваці“.—Зычна хтось гавора за шырокім валам на лагчыне.

„Дадаваці“-жартаўнік з-пад грэблі дразьніць.

„...ваці“—глуха кажа хмыза.

Зноў нямая супакойнасьць.

Дзеванька пужліва вокал паглядае і вяртаецца ў хаціну. Ножкі босые змываюцца расою. Вецер трэпле косы русые, шаўковые.

Гэта толькі казка, казка...

* *
*

Месяц бледны ўсходзіць: як агнішчо-пажарышчо, ён стаіць над цёмным борам. Да яго сіротка-зорка моцна туліцца і кажа:

— Ой, ты месяц залаценькі, ой, татуленька ты мой!—Я палохаюся ўночы, я баюся...

А на нізкай на лагчыне бель-бялюсенькі туман... А травінкі і лілеі ўсе галоўкамі прыніклі да матулі да зямлі... А лазовые кусточкі выглядаюць, нібы зданьні. Анямела ведзьма-пушча ў сьне трывожным і чароўным...

* *
*

Рыбалове маладзенькі, сьцеражыся! Бо у глыбокай, цёмнай плёсе вечарынка, у русалак—там і скачуць і пяюць. У каўдобіну зацягнуць, ты загінеш у чароце: як забавяць, зарагочуць, заласкочуць, зацалуюць, дык ня выйдзеш стуль жывы...

Гэй, начлежнік адзінокі! Ты ля вогнішча свайго Духу Сьветламу маліся да зары, каб у вобліку дзяўчыны ня прыйшоў упыр магільны маладую кроў тваю смактаць...

Ты ня йдзі, сястрычка гожая, цяпер, апаўночы, да бабулькі варажыць! Бо пад пусткай на балоце Страх сядзіць. Ноч яго. Ён на дарозе губіць бяз упынку. Цені там густые апануюць. Псы благіе загрызуць.

Першы кур пяе.

Раптам ціха, але шэгты ў цішыне. Гэта
Жудасьць тут нав[illegible]. І выходзіць
з сваіх шчэлін [illegible]жан,
лунае ён над рэ[illegible] мех
савы паўночн[illegible] у
[illegible]шчары. Н[illegible] і-
адзін[illegible]

йдуць у бор, дзе на дзікіх лыса-горках зёлкі-траванькі зьбіраюць, якіх Нечысьць там гадуе для людзей: на любосьці, на нядолю і на сьмерць.

Ой, нядобры, ой, страшэнны гэты час. Слоў благіх цяпер ня можна гаварыць!

Нібы чорая маланка, з-пад зямлі Цар пякельны вырываецца на верх. Растапыравае скрыдлы чорные свае, апіраецца аб крушню гавора:

— Богу чорнаму маліцца нам пара!
Дайце будзем тутка благасьці тварыць!

Сьвіст і скрыгат раздаюцца адусюль. То нябошчыкі выходзяць із магіл. То на зьмеях ваўкалакі, ведзьмакі прылятаюць а поўначы н[а] гульню. Абыймаючыся русалка з лясуном дзік[а] скачуць і рагочуць і пяюць.

* *
*

Ой, салодкі ты і вабны, цяжкі Грэх! Люд[зі] служаць табе шчыра заўсягды. Ў тваей працьме гіне цэлы сьвет.

Як душа твая ня мае супакою, падпішыся, сваей буйнаю крывёю. Будзеш піць атруту шчасьця без канца. Плаці вечнасьцю за хвілю забыцьця, бо у гэтым песьня радасьці зямлі.

* *
*

Ты куды, юнача сьветлы, уцякаеш ад людзей? У самоце апаўночы ты куды ідзеш?

Яго вабіць за далінаю пустыр, дзе на пан-
скіе палацы жвір капалі. Валатоўкі там нямы
тайны сказ у цішы гавораць зоркам. Там на ка-
мені на чорным Грэх сядзіць у вобліку лі[л]
характва—у постаці дзяўчыны, што красой сва[ей]
зіяе, бы анёл.

Да яе дзяцюк падходзіць з шчырым сэрц[ам],
поўным маладых жаданьняў. Зорка небо па[ла]-
суе, бы крывёй. Іскрай падае ў хмызьняк...

Кур другі пяе.

— Гавары мне аб каханьні...—шэпча дзя[ў]-
чынка таемна дзяцюку.

— Я люблю цябе бяз конца, без мяж[ы] —
рвецца споведзь маладой душы яго,—Бог кр[а]-
сваю стварыў Сваей рукой. Я, люблю цябе,
гордая багіня! Вабіш дух мой сілаю сваей, б[о]
баішся ты Тварыцеля свайго. Да пустэльн[ікаў]
зьяўляешся ўначы; сярод яго малітваў да Твар[ыцеля]
закаляеш у душы яго агонь і сумненьнем а[...]
ляеш яго сэрцо. Ты натхненьне даеш кату [...]
вацца людзкой кроўю, як упыр. Сам жа Бог-
сподзь аддаў людзей у твой палон... Гэта,
быць, Яго воля. Я люблю цябе дзеля таго, [...]
ты ёсьць творчасьць Яго рук.

Як два сонцы, твае вочы жыватворн[ымі]
праменьнямі блішчаць. Над'звычайна асал[...]
тваіх броў. На чале тваім лунаюць мары-[...]
Губкі поўны ўсіх таемнасьцяў жыцьця. Як
лубкі на галіне кволай, твае грудкі вахтаю[ць].
Бяры душу маю і сэрцо—ўсё жыцьцё! Не ба[...]
ані Бога, ні людзей. Грашыць буду без ка[...]
бо ты так хочаш... З кім змагаліся-б анёлы,
ня ты? Без цябе ня быў-бы рай у небясох.
ніякай вартасьці ня меў-бы, яго брама адчы-
лася-б усім. І пазнаньня ня было-бы на зям[лі],
гармонія і творчасьць памерлі-б. І любоў і с[...]
тасьць, як пясок дарог, паразсыпаліся-б
граніц. Човен праўды, так стаяў-бы пася-
жыцьця, як у густым кісялі... Люд зрабіўся
бяздушным і пустым, як сухі чарот. Не рад[...]



## М. Койданаво, Менск Окр.

У м. Койданаве каля 4000 жыхароў. Мястэчко досіць багатае. Пад ім у XIII веку дзьвёма ўдачнымі бітвамі Скірмунту і Міндоўгу ўдалося спыніць татараў і абараніць Беларусь ад няволі. Ад XVI веку Койданаво было адным з цэнтраў беларускага кальвінізму: памяткай гэтай яго ролі застаўся старасьвецкі кальвінскі збор, акружаны валам.

У Койданаве знаходзяцца цікавые старасьвецкіе грабніцы князёў Радзівілаў.

---

старому; то як у сьне: вось бацька, быццам, памёр, а „Пярэстка“ някормленая рычыць голасна, голасна, аж рэха па сьвеце ідзець... Цьфу! згінь ты прападзі!—Гэта толькі гарматы раўлі, гэта толькі *наша* артылерыя выказвала сваю моц у праве самавызначэньня сільных... згінь ты такая праўда!..

— Але-ткі ўцёк я ад яе, ад праўды гэтай?..

— Хвала Богу, хвала Богу!.. Я ў хаце... Так у хаце... На попелішчы хаты.., Але ўсё роўна... А бацька дзе? А ўсе нашы? А мо жывы?.. Адзін я ўвесь час быў... Пяць гадоў ваяваў то з тым, то з другім, то зноў з тым самым... Але адзін я быў мо паміж тысяч такіх самых, адзінокіх...

— А мо' жыве хто з нашых? О-о, калі-б яны жывы былі! Тагды ўсё нічога,—хаты выбудаваў-бы, гаспадарку паладзіў-бы. Сілы яшчэ хопіць!..

— Га!? Жаваранак!..

— Божа!—Жаваранак!..

— Калі тое было? О-о-о! Помню, помню. Шэсьць гадоў таму мы ішлі з ёю тут во як-раз па гэтай сьцежцы... Пеяў жаваранак... Сонейко зьяла... Тагды я сказаў ёй першы раз:—Люблю цябе Насьця, мая рыбанька, люблю, як родную, як матку, як сястру, як зямлю, як гэтага жаваранка... Я нат ня ведаю, што я казаў тагды, бо то было так дзіўна і так радасна, што ўсе мае і яе словы быццам зьліваліся ў вадно са сьпевам жаваранка і з прамемьнямі сонейка і з пахам во такой самай адыйшоўшай зямлі.

— Чую, чую цяпер усім сабою усё хараство таго дня. Так, то было на Вялікдзень... У сяло мы хадзілі на першы дзень... А сягоньня? Так, сягоньня Вялікая субота, знача тое было нібы заўтра... А што я знайду сапраўды заўтра?

— Пайду ў сяло, ў царкву... За ўвесь гэты час ня быў яшчэ. Ня чуў звону Вялікоднага, ня чуў я слоў— „Хрыстос Уваскрос“!

Распытаўся у сяле Рыгор аб усім і яшчэ колькі важкіх каменьняў прыціснуло яго грудзі.

Братоў расстралялі..

Сястра памерла...

Бацька, як забралі карову і спалілі хату—прапаў недзе бяз весьці і ў той самы дзень шчэзла і Насьця...Мо так негдзе, а мо'каб старую дагледзець?

У царкву пайшлі людзі ня так, як калісь-то хадзілі, што як званіць пачынаюць. Цяпер прыбег панамар пад адну хату і сказаў: перадавайце далей, што у царкву пара.—Так і зьбіраюцца, бо званоў няма, вывезьлі некуды.

Стаяць людзі са сьвечкамі ў руках, сьвянцонае так сама трымаюць, моляцца.

— Так,—думае Рыгор,—і я стаяў са сьвечкай і бацька, і Насьця, браты і сястра, ў кашолцы сьвянцонае...

Хрысьцяцца людзі, паклоны адбіваюць, а Рыгор стаіць як скамянеўшы, нібы жалезная фігура ля сьценкі, ані варухнецца.

Паглядаюць на Рыгора скоса, бо ня хрысьціцца ён, ня моліцца. Стаіць, сьцяўшы зубы, толькі вочы яго блішчаць, як у злога. Нешта страшнае думае чалавек...

Маленькі хлопчык, што стаяў каля мамі, процi Рыгора, голасна пытае:

— Мама, сказы, ці ўзо Вялікдзень?

— „Хрыстос воскрэсе із мертвых“.. —як-бы ў вадказ на гэтае дзіцячае пытаньне засьпяваў хор першае Вялікоднае „Ўваскрэсе“.

— Гы-гы-гы!.—вырваўся неспадзяваны згук плачу мужчыны, што як каменны стаяў ля сьцяны.

Рыгор упаў на зямлю, сьціснуў твар рукамі і як відаць не пераставаў плакаць.

Вось ужо бацюшка благаслаўляе і тройчы цалуецца з кожным, паўтараючы: „Хрыстос Уваскрос“.

Людзі выходзяць радасные, нясуць сьвянцонае, будуць разгаўляцца...

Рыгор ужо ўстаў і яму захацелося падыйсьці пад благаслаўленьне.

— Хрыстос Уваскрос!—сказаў бацюшка.

— Ваісьціну Ўваскрос!—адказаў Рыгор!

— А Божа, то-ж гэта Рыгор!

Рыгор! Родны мой! Уваскрос! Жывы...

Хапіла яго за рукі і кінулася цалаваць маладая кабеціна.

— Насьця!... Жаваранак!.. Жывеш!...

— А гэта!... Што!?... Татачка!!

— Уваскрос! Жывы...

І. Піліпаў.

Е. Карскі.

## Духоуные вершы і канты штучна створаные.

Сярод твораў беларускай народнай славеснасьці адно з значных месц займаюць „духоўные вершы“, створаные самім народам і захованые ў яго памяці, галоўным чынам праз сьляпых пяўцоў-лірнікаў (гл. належны аддзел у III т. вып. 1, нашых „Бѣлорусовъ“). Троху падобны да іх „духоўные вершы“ і „канты“, зложаные штучна, якіе зьявіліся на Беларусі ўжо даўно, некаторые яшчэ ў XVIII ст., якіе тварыліся ўжо сярод мяцовых інтэлігэнтных і граматных асоб і дайшлі да нас у старажытных сшытках, з якіх некаторые папалі ў этнографічные зборнікі. Мы ня будзем казаць тут аб „духоўных песьнях“, якіе ўвайшлі ў Богагласьнікі і іншые падобные зборнікі; мы пазнаемім чытачоў „Руні“ толькі з *павіншавальнымі духоўнымі вершамі і кантамі*. Канты сьпяваліся, а вершы гаварыліся як павіншаваньні.

І тые і другіе выйшлі са школы. Яны зайшлі к нам, як і к украінцам, з асьветай з Заходу, ўжо даўно. Іх складалі вандруючые бурсакі і сэмінарыстые, а затым вышаўшые з іх дзякі, настаўнікі (бакаляры), дробные чыноўнікі. Адгэтуль багацьце царкоўна-славянізмаў у такіх творах. З узьверхняй стараны яны не вызначаюцца добрай апрацоўкай: верш нават сыллябічны, ня вытрыманы; лік гукаў у радкох розны; стараньне захаваць рыфму ёсьць, але яна ня ўсюды правільная.

У старэйшых зборніках беларускіх народных твораў І. Насовіча і П. Шэйна (Записки Р. Г. О., т. V) такіх кантаў і вершаў надрукавана некалькі, напр. (стр. 349 № 113):

Торжествуйте, добродѣтельно наслаждайтесь,
Въ сердцахъ вѣнцомъ украшайтесь... і г. д.;

гэта кант; але тут-жа (№ 114) паказаны і павіншавальны верш:

Христосъ родися,
Звѣзда явися...
Высокопочтеннѣйшіе господа!
Я не могъ умолчать предъ вами,
Пришелъ поздравить сими словами...

Аднак, як можна бачыць з паказаных радкоў, мова канта і верша вельмі далёкая ад беларускай: іх гэткім-жа чынам можна-бы далучыць і да расійскіх або украінскіх твораў. Але да нас дайшлі і такіе штучные духоўные вершы, бязумоўна павіншавальные, у якіх беларускі элемэнт рашуча пануе. Гэта „Старый Восипъ бородатый“ і „Химка съ Ганкою двѣ молодзицы“ (Зап. V, 70 №№ 1 і 2), злучаные ў А. Рыпінскага (гл. „Беларусь“ 1919 г. № 20) ў адзін верш, — або з павіншавальных на Ражство Хрыстова. Гэтакі-ж павіншавальны верш на Вялікдзень (Зап. V, 86—89), які досіць спрытна перайначвае (на манер пародыі) біблійные здарэньні. Ён вядомы і украінцам і, магчыма, ў іх запазычаны *). Пачынаецца ён вось якімі славамі:

Пречистая середь ночи
Пустилася со всей мочи,
Плачучи, на гробъ Христовъ,
На Голгофу межъ кустовъ.

Спатыкаем Хрыста, каторы паведамляе ёй аб сваім уваскрашэньні і аб тым, як ён спусьціўся ў пекло. У гуморыстычным духу паказано, як Арон, заглянуўшы у біблію, пацьвярдзіў дагадкі „куцага“, што настаў час паратунку чалавечага роду, як Хрыстос апынуўся у пекле і спытаўся:

„Гдзѣ старенька баба Ева,
„Што грызнула плод от древа?

Як—

Куцый кочергу узявъ,
Въ печи крѣпко помѣшавъ.
Ева вылезла изъ печи,
Обгорѣли вельми плечи;
А за ею и Адамъ,
Аж Христосъ здзивився самъ!
Весь избитъ и исколотъ,
Зь голоду запавъ животъ!

Як яны ўцяклі ў рай, а за імі Лот, Самсон, Ісус Навін.

Праведныя души вышли;
Илія на нонях въ дышли,
Елисею давъ жупанъ.
Разступився Іорданъ;
Стали райскія вороты
Насцижъ въ дзень новой Суботы.

Прамудры Саламон па зыку райскага звону сабраў усіх за стол.

Сам Богъ яйцами златыми
Похристосовався зъ усими,
Разговѣвся святый міръ.
И почався вечный пиръ...
Тутъ и бабки, тутъ и внучки,
Вси побралися за ручки,
Пошли въ вѣчный корогодъ.
Слава Богу въ родъ и родъ!

---

*) *Аѳанасій Требинъ*: „Канты студные“ (Русск. Филол. Вѣст. LXX, 449—451, 453). Украінскі верш, які захаваўся ў сшытку канца XVIII ст., ў пачатку яшчэ мае чатыры лішніе радкі:

Кажуть, буцім молодиці
Негодяйки, ледащиці
І пугливі як зайці,
Аж брехня це пан—отці!

Нашаму пачатку адпавядае:

Сеж Марія серед ночі
За всії пустилась мочі
Плакати на гріб Христів,
На Голгофу між кустів.

У канцы даладзено некалькі вершаў, з якіх відаць, што гэтым вершам віншавалі на Вялікдзень якогасьці архірэя:

. . . . . . . . . .

І пішлі у хоровод.
Слава Богу въ род і род!
Не здивуй, святий владико,
Може для тебе й дико,
Що я вірш такий сказав,
Та щей писанка не взяв...





## А. Петрашкевіч (Ф. Калінка).

*† 20/V—1918 г. маючы ўсяго 24 гады.*

Поэзія яго—шчырая, простая, пісаная мазольнай рукой маладога селяніна-хлебароба. Гэта—скромны салоўка беларускіх зялёных далін і кволага бярэзьніка ля рэчкі.

Вішнёвы сад, зялёны дубок, язьмін, жаўронак, думкі ратая, бытавые абразкі засьцянковае шляхты—мотывы яго поэзіі.

У працягу 8 гадоў друкаваліся яго лірычные вершы ў „Нашай Ніве“, ў „Маладой Беларусі“, потым у “Вольнай Беларусі“ і ў „Беларускім Шляху“.

## Перасьцярога.

(Беларускім дзеткам).

*Дзеткі, дзеткі, ня глумеце*
*Гэтых кветак-васількоў,*
*Без патрэбы іх ня рвеце*
*І ня керзайце вянкоў.*

*І ня кідайце на шляху,*
*Падарожны каб таптаў,*
*Каб бязсільных і бяз паху*
*Вецер з пылам разам гнаў.*

*І ня кідайце, каб сонцо*
*Іх сушыло, іх пякло,*
*Лепш нясеце на ваконцо,*
*Дзе спакойна і—сьвятло...*

*Хай памруць яны ў спакою,*
*Не стаптаные нікім,*
*І паблякшаю красою*
*Хай напомняць прышласьць ўсім.*

А. Петрашкевіч.

## ЛЁС БЕЛАРУСІ.

Перагаворы паміж Польшчай і Сав. Расіяй, ня гледзячы на зацяжкі, якіе цяпер вышлі ў гэтай справе, пачнуцца, пэўна, ў хуткім часе. Аснаўным пунктам у перагаворах будзе вырашэньне лёсу Беларусі.

Польскіе правые групы—эндэкі—стаяць катэгорычна за падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй з тым, каб расійска-польская граніца была ўздоўж Дзьвіны і Бярэзіны. Пры гэткай дзяльбе, землі, якіе ляжаць к заходу ад гэтай лініі, павінны адыйсьці да Польшчы, як чыста-польская провінцыя.

Іншага погляду трымаюцца польскіе умеркаваные, радыкальные і соцыялістычные кругі. Польскі ўрад, які апіраецца на гэтые кругі, што складаюць парлямэнцкую большасьць у Сойме, глядзіць так сама з гэтага пункту. Ён лічыць, што Расія павінна адмовіцца ад якіх-бы ня было правоў на тые тэрыторыі, якіе ляжаць к заходу ад былўшай паміж Польшчай і Расіяй граніцы 1772 г. Польшча ў згодзе з воляй народаў, якіе насяляюць гэтые тэрыторыі, вырашыць лёс гэтых зямель. Гэта праграма фэдэралістых. Яна прапануе стварыць з літоўска-беларускіх і украінскіх зямель дзьве буфэрные дзяржавы, зьвязаные з Польшчай на прынцыпах фэдэрацыі. Але невядома, як польскі ўрад думае стварыць гэтые дзяржавы, якіе чынные сілы гэтых тэрыторыяў выклікаць да жыцьця, якіе будуць узаемные адносіны паміж гэтымі дзяржавамі і Польшчай—політычные вайсковые, эканамічные і г. д., дзе, урэшце, будзе ляжаць этнографічная мяжа Польшчы на ўсходзе.

У адносінах да Украіны польскі ўрад вядзе болей ясную політыку. Ён дагаварыўся з украінскім урадам, дзе Пятлюра стаіць на чале, і намагае яму фармаваць армію, вызначаючы дзеля гэтай мэты Бярэсьце. У адносінах да Беларусі політыка польскага ураду абсолютна цёмная. Да гэтага часу польскі ўрад ня даў ніякіх тлумачэньняў аб сваіх адносінах да Беларусі. На міравую конфэрэнцыю прадстаўнікі беларускага народу ня будуць дапушчаны і лёс краю і народу будзе вырашацца без яго удзелу.

Аднак-жа цяпер трудна сказаць якіе формы прымець гэтае пытаньне ў самым хуткім часе. Справа ў тым, што паміж Польшчай і Расіяй не дайшлі да згоды аб месьце перагавораў. У зьвязку з гэтым магчыма, што ў разборы ўсходняга пытаньня прымуць учасьце дзяржавы Антанты, якіе да гэтага часу давалі Польшчы „вольную руку“ ў гэтай справе. Дзяржавы Антанты розна глядзяць на політычную адбудову Польшчы. Адны, галоўным чынам, Францыя, дамагаюцца стварэньня вялікай адзінай Польшчы, ў адпор Нямеччыне. Другіе, як Англія і Амэрыка, зьяўляюцца гарачымі праціўнікамі вялікай Польшчы, дапускаючы Польшчу толькі ў яе этнографічных граніцах. Цяпер адбываецца конфэрэнцыя дзяржаў Антанты. Калі на конфэрэнцыі перамогуць тые, хто адносіцца да Польшчы опозыцыйна, дык тады Польшча будзе старацца утварыць паміж ею і Расіяй дзьве незалежные саюзные з ёю дзяржавы—Украіну і Беларусь. Тады лёс Беларусі стане больш-менш ясным. Апрача таго, Польшча можа, як у Галіччыне, адтрымаць мандат на упраўленьне.

